











А ВОСЬ І НАШ ГАЛОЎНЫ ГАЛАЎНЫ БОЛЬ!

¡THRUNKT!

АДАМАНТЫЕВЫ ШКІЛЕТ? ФАКРАТ САМАВЫЛЕЧВАННЯ, ЯКІ ЎЗНАЎЛЯЕ ТКАНІНЫ ТАК ЖА ХУТКА, ЯК Я ІХ ЗНІШЧАЮ?

СПАДЗЯЮСЯ, Я ТОЛЬКІ ШТО АТРЫМАЎ МОЙ НОВЫ ДОМ. МАТУЛЯ І ТАТУЛЯ!

СЛУХАЙЦЕ! ПАКУЛЬ ХАЎЕР У НЕПРЫТОМНАСЦІ, Я БЯРУ ЧАСОВАЕ КІРАЎНІЦТВА Ў СВАЕ РУКІ! ЧАЛАВЕК-ЛЁД, ТЫ ІДЗЕШ ЗА МНОЙ. ШТОРМ І БЭТСІ – АБАРАНЯЙЦЕ ЧАЛАВЕКА-ІЛЬДА!

УММФ!

У АДРОЗНЕННІ АД ЦЯБЕ, Я НЕ ЛЮБЛЮ ГВАЛТ, АЛЕ Я ЗРАБЛЮ ТАБЕ БАЛЮЧА, КАЛІ ТЫ НЕ СПЫНІШСЯ. ТАМУ ПАСЛУХАЙСЯ МЯНЕ І ВЯРТАЙСЯ НА ВОСТРАЎ МУІР ПЕРШЫМ ЖА ШРУБАЛЁТАМ, СЯБРЫК!

Я НЕ ВЯРНУСЯ Ў ГЭТУ ЧОРТАВУ ДЗІРУ! ТЫ – АДЗІНЫ, КАГО ТРЭБА ЗАМКНУЦЬ У КЛЕТЦЫ, ГЛУПАЯ МАЎПА!

ПАЗНАЕШ СВАІХ СТАРЫХ СЯБРОЎ? ТЫХ РАБЯТ, ЯКІЯ КОЖНЫ ДЗЕНЬ ЗДЕКВАЛІСЯ НАД ТАБОЙ ПА ДАРОГЕ СА ШКОЛЫ? ЯК ЯНЫ ЦЯБЕ ДРАЖНІЛІ?

ЧАЛАВЕК-МАКАКА? ДЖО БАНАНАС? ТАК, ШТОРМ ТРЭБА АРЫШТАВАЦЬ ТОЛЬКІ ЗА ТОЕ, ШТО ЯНА ПАГЛЯДЗЕЛА НА ЦЯБЕ, ВЫРАДАК!

О, БОЖА!

АДПУСЦІ ЯГО, КРЭТЫН!

SNIKT!

SNIKT!

ДАРЭЧЫ, ПРА ШТОРМ. ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ХЛОПЦА, ЯКІ ТОЛЬКІ І МАРЫЦЬ, ШТО ПРА ДЗЯЎЧЫНУ СВАЙГО ЛЕПШАГА СЯБРА.

О, ТАК. ДЗІЎНА, ЧАГО ТОЛЬКІ НЕ ЗНОЙДЗЕШ У ЗАКУТКАХ ЧАЛАВЕКАЙ СВЯДОМАСЦІ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД.

ХТО Б МОГ ПАДУМАЦЬ, ШТО ТАКІ ВЯЛІКІ ХЛОПЧЫК, ЯК ТЫ, ДАГЭТУЛЬ ПІСАЕ Ў ЛОЖАК, КАЛІ БАЧЫЦЬ У СНАХ МАГНЕТА І ЯГО БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ?

ААААААА!

ШТОРМ ТОЛЬКІ ШТО ПАРАЗІЛА ЦЯБЕ РАЗРАДАМ МАЛАНКІ. АЛЕ ГЭТА КВЕТАЧКІ Ў ПАРАЎНАННІ З ТЫМ, ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ.
Я НІКОЛІ НЕ КАРЫСТАЮСЯ ТЭЛЕПАТЫЧНЫМІ СНАРАДАМІ. МОЙ БЫЛЫ МУЖ ТЫДЗЕНЬ НЕ МОГ РАЗМАЎЛЯЦЬ, КАЛІ Я ЗАПУСЦІЛА Ў ЯГО САМЫ МАЛЕНЬКІ.
ААААРРРХ!!
БОЖА, ШТО ГЭТА БЫЛО?
ВЕДЗЬМА! ПРАКЛЯТАЯ ВЕДЗЬМА! Я ПЕРАЛАМАЮ ТАБЕ ЗА ГЭТА ЎСЕ КОСТКІ!
ТОЛЬКІ НЕ СЁННЯ, ПРЫЯЦЕЛЬ! ТЫ – ХВОРЫ, ТЫ СТАМІЎСЯ. КАЛІ ЧЫСНА, ТЫ НАВАТ НЕ МОЖАШ СТАЯЦЬ НА НАГАХ.
ВЯРТАЙСЯ Ў СВОЙ БАЛЬНІЧНЫ ЛОЖАК.
НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ!
ДЭВІД, КАЛІ ЛАСКА! ТЫ ЗАГІНЕШ, КАЛІ НЕ ПЕРАСТАНЕШ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ СВАЮ СІЛУ ТАКІМ ЧЫНАМ! ТВАЁ ЦЕЛА ЗГАРЫЦЬ!
ММФ!
ЦЕЛА – ГЭТА НЕ ГАЛОЎНАЕ, МАМА!
ДЭВІД! ШТО ТЫ РОБІШ?
ПРОСТА ПРАВЯРАЮ, НАКОЛЬКІ МОЦНЫ ГЭТЫ ВАШ РАСАМАХА.
Rodney's BOOKS

Санкт-Пецярбург:
ТЫ ЛІЧЫШ, ГЭТА ПРАВІЛЬНА, ШТО МЫ ПАЕХАЛІ Ў РАСІЮ ЗАРАЗ, КАЛІ ІМ ПАТРЭБНА НАША ДАПАМОГА?
НЕ ДУРЫ, СКОТ. ПРОСТА Ў АДНАГО ХЛОПЦА ЎЗНІКЛІ ПРАБЛЕМЫ З ВЫКАРЫСТАННЕМ СУПЕРЗДОЛЬНАСЦЯЎ. ШТО МОЖА ТАКОГА ЗДАРЫЦЦА?
АКРАМЯ ТАГО, МЫ З ПРАФЕСАРАМ ЛІЧЫМ, ШТО НАМ ПРОСТА НЕАБХОДНА ЗНАЙСЦІ КАЛОСА. НЕ МОЖАМ ЖА МЫ ЎАБОДВУХ ПАМЫЛЯЦЦА.
Я ТОЛЬКІ СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ЁН НЕ ЗАМЕШАНЫ Ў ТОЙ СПРАВЕ З КАРАБЛЁМ, ЯКІ ПАТАНУЎ У БЕЛЫМ МОРЫ. ІНАЧ Я ЗАБ'Ю ЯГО.
КАЛІ ЁН УЗНАВІЎ СВАЕ СТАРЫЯ СУВЯЗІ З МАФІЯЙ, ГЭТА АДНО, АЛЕ КАЛІ ЁН УЧЫНІЎ КАТАСТРОФУ НА ПАДВОДНАЙ ЛОДЦЫ ПА ПАДГАВОРВАННІ БРАТЭРСТВА. ТАДЫ Я...
НЕ ПРАЦЯГВАЙЦЕ, МІСТАР САМЕРС.
ТЭЛЕПАТЫЧНЫ СІГНАЛ, ЯКІ Я АДСОЧВАЮ, УЗМАЦНЯЕЦЦА.
КАЛОС ПАВІННЫ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў РАДЗІЎСЕ АДНОЙ МІЛІ АД МАШЫНЫ.
ДАГЭТУЛЬ НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО РАСАМАХА АДПУСЦІЎ МЯНЕ НА ГЭТА ЗАДАННЕ. Я ДУМАЎ, ЁН СКАРЫСТАЕЦЦА ВЫПАДКАМ ПРАВЕСЦІ З ТАБОЙ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ПАДАЛЕЙ АД АСТАТНІХ.
ЦЯПЕР УЖО НЕ.
НА ДУМКУ ШТОРМ, РАСАМАХА ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ ВІНАВАТЫМ ПЕРАД МНОЙ. ЦЯПЕР ЁН ПРОСТА СПРАБУЕ БЫЦЬ БЛІЖЭЙ ДА МЯНЕ, КАБ АБАРАНЯЦЬ МЯНЕ, ЯК ВЫСАКАРОДНЫ САМУРАЙ.
ХОЧАШ СКАЗАЦЬ, ЁН ПЕРАСТАЎ ДА ЦЯБЕ ЗАЛЯТАЦЦА? МІЖ ВАМІ БОЛЬШ НІЧОГА НЯМА?
НЯМА, НІЧАГОСЕНЬКІ. ЦЯПЕР Я - ВОЛЬНАЯ. АДЗІНОКАЯ ДЗЯЎЧЫНА. НЕЗАЛЕЖНАЯ І НІ Ў КАГО НЕ ЗАКАХАНАЯ, МІСТАР САМЕРС.
У МЯНЕ НІКОГА НЯМА. І Я ЧАКАЮ ПРАПАНОЎ АД ГОДНЫХ, АДЗІНОКІХ МУЖЧЫН.
ВЕДАЕШ, ЧАСАМ Я ГАТОВА ПАКЛЯСЬЦІСЯ, ШТО ГЭТЫЯ КВАРЦАВЫЯ АКУЛЯРЫ РОБЯЦЬ ЦЯБЕ ЗУСІМ СЛЯПЫМ, СКОТ.
ГЭЙ! ВОСЬ І ЁН...


КАЛОС!
НЕ.


ДЗЯКУЙ БОГУ, ТЫ ЦЭЛЫ, ПІТАР.
КУДЫ ГЭТА ТЫ РАПТАМ ЗНІК, ПРЫЯЦЕЛЬ? УСЕ ЛІЧЫЛІ, ШТО ЦЯБЕ ВЫКРАЛІ! ГЭТАК ДАЛЕЙ.


ПРОСТА МНЕ НАДАКУЧЫЛА, ШТО МЯНЕ ІГНАРУЮЦЬ, НЕДААЦЭНЬВАЮЦЬ. І АКРАМЯ ГЭТАГА, Я СТАМІЎСЯ АД УСІХ ГЭТЫХ ВАР'ЯЦКІХ ПАЦЫФІСЦКІХ ІДЭЙ ХАЎЕРА.


А ЗАРАЗ УХОДЗЬЦЕ.
КАМУСЬЦІ З НАС ТРЭБА ПАПРАЦАВАЦЬ.


ХАЦЯ Б ЦЯПЕР МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ГЭТА НЕ ЁН СТАПІЎ ЛОДКУ.


БЭТСІ, ГЭТА ДЭЙ, ШТО ТАМ НАВЕРСЕ?
А ТЫ ЯК ЛІЧЫШ? ПРОСТА КАШМАР. ЁН ВЫЛЯЦЕЎ НА ГРУЗАВІКУ З МАСТА І СТВАРЫЎ ЖУДАСНЫ ЗАТОР ДАЎЖЫНЁЮ Ў ПЯЦЬ МІЛЬ.


ЁН МОЖА БЫЦЬ ДЗЕ ЗАЎГОДНА, ДЭЙ. ДЗЕ ЗАЎГОДНА І КІМ ЗАХОЧА. У МЯНЕ Ў ГАЛАВЕ ЎСЁ БЛЫТАЕЦЦА. І Я НЕ МАГУ АДШУКАЦЬ ЯГО ТЭЛЕПАТЫЧНА. ЯК МЫ ЦЯПЕР ЗНОЙДЗЕМ НАШАГА МАЛЕНЬКАГА ПАРАСЯ?
КАЛІ ПА-ПРАЎДЗЕ, ТО Я НЕ ДАМУЮ, ШТО ЯГО ТАК УЖО І ЦЯЖКА ЗНАЙСЦІ. ПРОСТА ТРЭБА АРГАНІЗАВАЦЬ КАМАНДУ ВЫРАТАВАЛЬНІКАЎ І ЎЗЯЦЬ САБЕ Ў РУКІ. БЭТСІ, ТЫ ЗРАБІЛА ВЯЛІКУЮ РАБОТУ, КАХАНАЯ.


ПАЦЕШЦЕ МЯНЕ, РАБЯТЫ. З РАСАМАХАЙ УСЁ Ў ПАРАДКУ?
ВІДАЦЬ, ШТО ТАК, ІНСПЕКТАР. ЯГО ФАКТАР САМАВЫЛЕЧВАННЯ, ЯК ЗАЎСЁДЫ, СПАЧАТКУ ВЫЛЕЧВАЕ РАНЫ НА ГАЛАВЕ. ДУМАЮ, ЁН АДКАЖА НАМ, ЯК ТОЛЬКІ АДНОВІЦЦА ЯГО РОТ І ГАЛАСАВЫЯ ЗВЯЗКІ.


БОЖА, ПАГЛЯДЗІ НА ЯГО, БЫЦЦАМ УСКРЫЦЦЕ, ТОЛЬКІ НААДВАРОТ. ГЭТА АМАЛЬ ПРЫГОЖА. САПРАЎДЫ, ЧАРЛЬЗ?
РАСАМАХА, ТЫ ЧУЕШ МЯНЕ? СЛУХАЙ УВАЖЛІВА, БО ГЭТА ВЕЛЬМІ ВАЖНА.
МОЖАШ АДКРЫЦЬ ДОТЫК ДА СВАЁЙ СВЯДОМАСЦІ, УБЯРЫ АБАРОНУ, АТРЫМАНУЮ АД «ЗБРОІ ІКС»? МЫ ПАВІННЫ ЎДАСКАНАЛІЦЬ, ШТО ДЭВІД КАНЧАТКОВА ПАКІНУЎ ТВОЙ АРГАНІЗМ.




Працяг будзе...

ULTIMATE X-MEN

ISSUE 18

СУСВЕТНЫ ТУР. ЧАСТКА 3



MARVEL

MILLAR
BACHALO



MARVEL.COM

BY COMICS

СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС #18 (2001)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

Санкт-Пецярбург:

# ЛЮДЗІ-ІКС: СУСВЕТНЫ ТУР

## частка трэцяя




ТАБЕ Ж НЕ ПАТРЭБНА ПАВЕТРА, КАЛІ ЗНАХОДЗІШСЯ Ў СТАЛЁВЫМ СТАНЕ. ЧАМУ ТЫ НЕ ПАСПРАБУЕШ СПУСЦІЦЦА ДА ГЭТЫХ ХЛАПЦОЎ, КАБ ПЕРАДАЦЬ ІМ ТРОХІ ЕЖЫ І КІСЛАРОДНЫЯ МАСКІ?
КІНЬЦЕ ГЭТЫЯ ВАШЫЯ ЗАМАНЫ, ВАМ НЕ ВЯРНУЦЬ МЯНЕ Ў СВАЮ ВЕРУ, МАРВЕЛ. ПАТАНУЛАЙ ЛОДКАЙ ЗАЙМАЮЦЦА СПЕЦЫЯЛІСТЫ. Я БАЧЫЎ ІХ У НАВІНАХ ПАД ЧАС АБЕДУ.
ZZZZTTTT
НЕ ВЫПАДКОВА ДЛЯ ГЭТАЙ СПРАВЫ САБРАЛІСЯ ЛЕПШЫЯ СУПЕРГЕРОІ.
ЖАЛЕЗНЫ ЧАЛАВЕК І КАПІТАН АМЕРЫКА – ПРАФЕСІЯНАЛЫ. ЯНЫ РАЗБЯРУЦЦА Ў ГЭТАЙ СІТУАЦЫІ ЗНАЧНА ЛЕПШ, ЧЫМ ДЗЕВЯТНАЦЦАЦІГАДОВЫ ХЛАПЧУК ТЫПУ МЯНЕ.
ШТО ТЫ ХОЧАШ ГЭТЫМ СКАЗАЦЬ? ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПРАВЕСЦІ РЭШТКІ ЖЫЦЦЯ, ХАВАЮЧЫСЯ, І ПРАЦАВАЦЬ ЗА ДРОБЯЗЬ НА ГЭТЫМ АЎТАМАБІЛЬНЫМ ЗАВОДЗЕ?
А ТЫ ШТО ПРАПАНУЕШ? ХАВАЦЦА Ў ВАШАЙ ШКОЛЕ І ВУЧЫЦЦА АБАРАНЯЦЬ СВЕТ, ЯКІ НАС НЕНАВІДЗІЦЬ?


ВЫ – ІНШАЯ СПРАВА. БЕЗ ДАПАМОГІ ПРАФЕСАРА, ЯКІ НАВУЧЫЎ ДЖЫНУ СТРЫМЛІВАЦЬ СВАЮ ТЭЛЕПАТЫЧНУЮ СІЛУ, ЯНА З'ЕХАЛА Б З ГЛУЗДУ І ТРАПІЛА Б У ПСІХУШКУ.
БЕЗ ГЭТЫХ КВАРЦАВЫХ АКУЛЯРАЎ, ЯКІЯ ЁН ВЫНАЙШОЎ, ЦЫКЛОП ЗАБІВАЎ БЫ ЛЮДЗЕЙ СВАІМІ ПРАМЯНЯМІ. КОЖНЫ РАЗ, ЯК РАСПЛЮШЧАЎ БЫ ВОЧЫ.
АЛЕ МАЯ СУПЕРЗДОЛЬНАСЦЬ НЕ ТАКАЯ ЦЯЖКАЯ, ЯК ВАША. Я МАГУ КАНТРАЛЯВАЦЬ СВАЁ СТАЛЁВАЕ ЦЕЛА І ВЯРТАЦЦА Ў НАРМАЛЬНЫ СТАН, КАЛІ ПАЖАДАЮ.
МНЕ НЕ ПАТРЭБНА ЯГО ДАПАМОГА. ТАМУ МНЕ НЕ ТРЭБА ВАЛАЧЫЦЦА З ІМ ПА ЎСЯМУ СВЕТУ І СЛУХАЦЬ ЯГО ЛЕКЦЫІ ПРА ТОЕ, ЯКІЯ МУТАНТЫ РАЗУМНЫЯ.
МЫ НЕ РАЗУМНЫЯ. МЫ НЕБЯСПЕЧНЫЯ І МЯРЗОТНЫЯ...
...І КАЛІ МЫ НЕ ХАЦІМ, КАБ НАС ЗАКІДВАЛІ КАМЯНЯМІ, ЯК ГЭТА БЫЛО Ў ЛОНДАНЕ, МЫ ПАВІННЫ ПРЫКІДВАЦЦА, ШТО МЫ ТАКСАМА ЛЮДЗІ.
ТАБЕ НЕ ПАДАЕЦЦА, ШТО ГЭТА ЦЫНІЧНА, КАЛОС? ТАБЕ НЕ ПАДАЕЦЦА, ШТО САМЫ МАГУТНЫ МУТАНТ НА ЗЯМЛЕ, ЯКІ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД СВАІХ ЗДОЛЬНАСЦЯЎ, ПАДОБНЫ НА ПТУШКУ, ЯКАЯ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД МАГЧЫМАСЦІ ЛЕТАЦЬ?


НЕ, ХУТЧЭЙ НА СКУНСА, ЯКІ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД СВАЙГО СМУРОДА.
І МЯНЕ ЗАВУЦЬ РАСПУЦІН, А НЕ КАЛОС. ПЁТАР МІКАЛАЕВІЧ РАСПУЦІН.
А ЦЯПЕР ПАКІНЬЦЕ МЯНЕ. Я СПАЗНЯЮСЯ НА ВЯЧЭРУ З СЯМ'ЁЙ.


Берлін:
М-ТАК. ДАГЭТУЛЬ НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО МЫ ПЕРАСЛЕДУЕМ ЗЛОБНАГА СЫНА ПРАФЕСАРА, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ РАЗ'ЯЗЖАЦЬ ПА СВЕТУ І РЭКЛАМІРАВАЦЬ ЯГО КНІГУ, ЯК ЁН САМ АБЯЦАЎ.


САПРАЎДЫ, ШТОРМ. КАЛІ Б Я ХАЦЕЎ ТРАЦІЦЬ СВОЙ ЧАС НА ПОШУКІ ПРЫТЫРКАЎ, ЯКІМ МОЖНА НАМЫЛІЦЬ ШЫЮ, Я Б ПРОСТА ПАЙШОЎ У ЗВЫЧАЙНУЮ ШКОЛУ.
ПРАБАЧ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД, АЛЕ ДЭВІД ТАКСАМА І МОЙ СЫН, І ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ЁН СУР'ЁЗНА ХВОРЫ.
НУ, КАНЕШНЕ, І ГЭТАЯ ХВАРОБА ПРЫМУШАЕ ЯГО ПЕРАСКОКВАЦЬ З АДНАГО ЦЕЛА Ў ІНШАЕ І ЗАБІВАЦЬ УСІХ ЗАПАР? ПРАБАЧЦЕ, ШТО Я НЕ ЗАХАПІЎ КВЕТАК, ДОКТАР МАКТАГГЕРТ.


ПРЫЗНАЮСЯ, ГЭТА ФАЙНА, ШТО З АЭРАПОРТА НАС СУПРАВАДЖАЮЦЬ ВАЙСКОВЫЯ. А ЯШЧЭ НАМ ВЫКЛІКАЛІ АГЕНТАЎ «АБАРОНЫ» НА ДАПАМОГУ.
ЛЮДЗІ ІКС ПРАЦУЮЦЬ З ЛЕПШЫМІ СУПЕРГЕРОЯМІ. НЯЎЖО ГЭТА НЕ ВЫДАТНА?


Я ТОЛЬКІ НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ, ЧАМУ Ў ГЭТАЙ ТЭЛЕПАТКЕ АТРЫМАЛАСЯ АДСАЧЫЦЬ ГЭТАГА ВЫРАДКА, А ПРАФЕСАРУ НЕ?
БО ЁН ПРАСАЧЫЎСЯ Ў СВЯДОМАСЦЬ ПРАФЕСАРА І НЕЯК ЗАБЛАКАВАЎ ЯГО. А ГЭТАЯ МІС БРЭДАК – ЦЁМНЫ КОНІК.
ДУМАЮ, ГЭТА ЧАСОВА. ВІДАЦЬ, БЭТСІ НЯДРЭННА ЛАДЗІЦЬ З НАШЫМ БОСАМ, КАЛІ ВЫ РАЗУМЕЕЦА, ПРА ШТО Я.


НУ, ТЭЛЕПАТЫ ЗАЎСЁДЫ ЛЮБЯЦЬ ПАГУТАРЫЦЬ, МІС МАНРО. ГЭТА ДАВОЛІ ПАЦЕШНА НАЗІРАЦЬ ЗА ІХ НЯМОЙ ГУТАРКАЙ.
УСЁ АДНО, ШТО ГЛЯДЗЕЦЬ НА ІНВАЛІДАЎ НА СЛЫХ, ТОЛЬКІ БЕЗ МОВЫ ЖЭСТАЎ.
ЦІ ЯНА ПРОСТА ЗААХВОЧВАЕ ЯГО, ІНСПЕКТАР ТОМАС.
О БОЖА, НЕ!


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, ДОКТАР? Я ЛІЧЫЎ, МІЖ ВАМІ ЎСЁ СКОНЧАНА?
ЦЯПЕР Я РАЗУМЕЕЮ, ЧАМУ ДЭВІД ПРЫВАБІЎ НАС СЮДЫ, У ГЕРМАНІЮ. У 1995 ГОДЗЕ ТУТ ПРАХОДЗІЎ ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ.


Аэрапорт Дубліна
БОЖА.
ГЭТА БЫЎ НАШ АПОШНІ АДПАЧЫНАК, ЯКІ МЫ ПРАВОДЗІЛІ РАЗАМ: Я, ЧАРЛЬЗ І ДЭВІД.


ПРЫЗНАЦЦА, Я ТРОХІ ЗДЗІЎЛЕНА ТЫМ, ШТО РАСАМАХА ТАК ВОСТРА НА ЎСЁ РЭАГУЕ. МНЕ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ЧАЛАВЕК З ЯГО ХАРАКТАРАМ НЕ БУДЗЕ ТУРБАВАЦЦА З УСЯЛЯКАЙ НАГОДЫ.
РАСАМАХА, НІБЫ ДЗІКІ ЗВЕР.
ЁН ЦАЛКАМ РАЗЛІЧВАЕ НА СВАЕ ПАЧУЦЦІ. І ДА ТАГО Ж ЁН УПЕРШЫНЮ СУСТРЭЎ СУПЕРНІКА, СУПРАЦЬ ЯКОГА ЯГО ЗДОЛЬНАСЦІ АКАЗАЛІСЯ БЕСКАРЫСНІМІ.


ПОШУКІ МАЙГО СЫНА БЫЛІ ПАКУТНЫМІ ДЛЯ ЎСІХ, АЛЕ Я ВЕРУ, ШТО ХУТКА МЫ СХОПІМ ЯГО І ДАПАМОЖАМ РЭАБІЛІЦІРАВАЦЦА... ТЫМ БОЛЬШ, ШТО НАМ ДАПАМАГАЮЦЬ ВЯДОМЫЯ СУПЕРГЕРОІ.
ШТО ВЫ МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ ПАД РЭАБІЛІТАЦЫЯЙ? ВЫ ЖА НЕ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЎЗЯЦЬ ГЭТУЮ ЖЫВЁЛІНУ Ў СВАЮ ШКОЛУ?
АПОШНІЯ СЕМ ГАДОЎ ДЭВІД ПРАВЁЎ У БАЛЬНІЧНЫМ ЛОЖКУ, БЭТСІ. МАГЧЫМА, ЁН САМЫ МАГУТНЫ МУТАНТ НА ЗЯМЛЕ, АЛЕ ЁН НЕ ВЕДАЕ, ЯК ВЫКАРЫСТАЦЬ СВАЮ СІЛУ.
КАЛІ ВЫ ЗНОЙДЗЕЦЕ МНЕ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ БОЛЬШ, ЧЫМ ЁН МАЕ ПАТРЭБУ Ў НАВУЧАННІ, Я ВЕЛЬМІ ЗДЗІЎЛЮСЯ.


ВЫ, ВІДАЦЬ, САМЫ ДЗІЎНЫ ЧАЛАВЕК З УСІХ, КАГО Я СУСТРАКАЛА. Я ТОЛЬКІ ПАЗНАЁМІЛАСЯ З ВАМІ, ПРАФЕСАР, І ЎЖО ПРАСЯКНУЛАСЯ СІМПАТЫЯЙ.

НАПЭЎНА, ВАМ ПРЫЕМНА ЗНАХОДЗІЦЦА ТУТ СА СВАЁЙ БЫЛОЙ ЖАНОЙ?

ЗУСІМ НЕ, У НАС З МОЙРАЙ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ЦЯЖКІЯ АДНОСІНЫ.

Я ПРОСТА НЕ ЎЯЎЛЯЮ, ЯК ВЫ МАГЛІ АЖАНІЦЦА.

ВЫ БУДЗЕЦЕ ЗДЗІЎЛЕНЫЯ, АЛЕ КАЛІСЬЦІ МЫ ВЕЛЬМІ КАХАЛІ АДЗІН АДНАГО.



МЫ ПАЗНАЁМІЛІСЯ Ў АСПІРАНТУРЫ ГЕНЕТЫЧНАГА АДДЗЯЛЕННЯ ЎНІВЕРСІТЭТА ГЛАЗГА І ПРАЗ ТРЫ ТЫДНЯ АЖАНІЛІСЯ.

У ТЫЯ ДНІ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЛІ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПРА МУТАНТАЎ, АЛЕ Я ЎЖО ВЕДАЎ, ХТО Я ТАКІ. РАЗАМ З МОЙРАЙ МЫ НАПІСАЛІ КНІГУ ПА МЕДЫЦЫНЕ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ БУДУЧЫНІ.

МОЙРА ЗМАЙСТРАВАЛА І СТВАРЫЛА ПРАТАТЫП ЦЭРЭБРА, ЯКІ ВЫ БАЧЫЛІ НА ВОСТРАВЕ МУІР. МЫ ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ ЯГО, КАБ ЗНАЙСЦІ ПАЦЫЕНТАЎ, ЯКІМ МАГЛА СПАТРЭБІЦЦА НАША ДАПАМОГА.

ХЛОПЧЫК, ЯКІ ПЕРАЎТВАРАЎСЯ Ў СМУГУ, САБАКА, ЯКІ ПАДОБНЫ НА МАРОЗІВА. МЫ ІМКНУЛІСЯ РАТАВАЦЬ УСІХ.

ГЭТА БЫЛО ЗНАЧНА РАНЕЙ, ЧЫМ МЫ ПРЫЦЯГНУЛІ ДА СЯБЕ ЎВАГУ ІНШАГА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЦІКАВІЎСЯ МАЛАДЫМІ МУТАНТАМІ...

МАГНЕТА?

ТАК, ЯГО.



НЕ ВЕДАЮ, ЯК ВЫ, АЛЕ КАЛІ Я ЎПЕРШЫНЮ СУСТРЭЎ ДАРОСЛАГА МУТАНТА, НА МЯНЕ ЯК ЧАН З ВАДОЙ ВЫЛІЛІ. ГЭТА БЫЛО АДЧУВАННЕ МАЦНЕЙ ЛЮБВІ. І НАШЫЯ ЖОНЫ ВЕДАЛІ ПРА ГЭТА.

НАШЫ ВОЧЫ ЗАЗЗЯЛІСЯ, НАШЫ ДУМКІ ПАБЕГЛІ ХУТЧЭЙ. МЫ МАГЛІ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА ТЭЛЕФОНУ 72 ГАДЗІНЫ ЗАПАР, АБМЯРКОЎВАЮЧЫ НАШЫ ПЛАНЫ ПА ЎЛАДКАВАННЮ СВЕТА.



БЕДНЫ МАЛЕНЬКІ ДЭВІД БЫЎ У ЖАХУ, КАЛІ ПРЫЕХАЛІ БЛІЗНЯТЫ МАГНЕТА. ГЭТА БЫЛО ЗА НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ ДА ТАГО, ЯК ДЭВІД ДАВЕДАЎСЯ ПРА СВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ.

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, У МЯНЕ НЕ БЫЛО АСАБЛІВАЙ ПРЫЧЫНЫ ДЛЯ ЎХОДА.

ПРОСТА БЫЛІ ДОЎГІЯ ДАЖДЖЛІВЫЯ НОЧЫ, ЯКІЯ Я ПРАВОДЗІЎ ПЕРАД ТЭЛЕВІЗАРАМ. І ЎЗРАСТАЮЧАЯ НЕПРЫЯЗНАСЦЬ ДА МАЙГО ЎЛАСНАГА СЫНА.

ЦЯПЕР Я РАЗУМЕЮ, ЯК ГЭТА ЖАХЛІВА, АЛЕ Я НАВАТ НЕ РАЗВІТАЎСЯ ТОЙ НОЧЧУ. КАЛІ Я ЎЕХАЎ, КАБ СТВАРЫЦЬ НАШ МАЛЕНЬКІ ВОСТРАЎ У ПАЎДНЁВЫМ МОРЫ.


ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, МІЖ МНОЮ І МАГНЕТА АДБЫЛАСЯ ЖАХЛІВАЯ СПРЭЧКА, КАЛІЯ ДАВЕДАЎСЯ ПРА ЯГО САПРАЎДНЫЯ ПЛАНЫ. ПАСЛЯ ГЭТАГА Я АКАЗАЎСЯ НА ІНВАЛІДНЫМ КРЭСЛЕ.
ТАМУ, КАЛІ МАЕ ІНВЕСТАРЫ ПРАПАНАВАЛІ МНЕ СТВАРЫЦЬ МАЮ САКРЭТНУЮ ШКОЛУ Ў НЮ-ЁРКЕ, ДЫ ЯШЧЭ АДНУ - ДЛЯ ЗУСІМ ХВОРЫХ МУТАНТАЎ, Я ЗНОЎ ПАДУМАЎ ПРА МОЙРУ.
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ВЫ ДАЛІ ЁЙ ПРАЦУ, КАБ ЗАГЛАДЗІЦЬ СВАЮ ВІНУ ЗА ТОЕ, ШТО КІНУЛІ ЯЕ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ НАЗАД.


ЧАСТКОВА. АЛЕ ТАК ЖА І ТАМУ, ШТО ЯНА БЫЛА ЛЕПШАЙ ЖАНЧЫНАЙ-ГЕНЕТЫКАМ. І ТАМУ ШТО Я ХАЦЕЎ, КАБ МОЙ НЕВЫЛЕЧНА ХВОРЫ СЫН ЗНАХОДЗІЎСЯ Ў ДОБРЫХ УМОВАХ.
ВЫ АДЧУВАЕЦЕ СВАЮ АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ДЭВІДАМ? БО ЯГО ЗДОЛЬНАСЦЬ МЯНЯЦЬ РЭАЛЬНАСЦЬ ПРАЯВІЛАСЯ ПРАЗ ДЗІНЬ ПАСЛЯ ВАШАГА ЎХОДУ?


НЕ ЗУСІМ. ЯНА З'ЯВІЛАСЯ Б У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ. АЛЕ Я АДЧУВАЮ СВАЮ ВІНУ ЗА ТОЕ, ШТО МЯНЕ НЕ БЫЛО КАЛЯ ЯГО Ў ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЁН НАЙБОЛЬШ МЕЎ ПАТРЭБУ Ў ДАПАМОЗЕ.


ВЕДАЕЦЕ, Я ЛЮБІЎ СВАЙГО СЫНА.
МАГЧЫМА, ГЭТА ПАДОБНА НА ЛЮБОЎ ДА ХАТНЯЙ ЖЫВЕЛІНЫ, АЛЕ Я ЛЮБІЎ ЯГО.




ТЭЛІЛІ СА СПЕЦСЛУЖБЫ. ЯНЫ НЕ ЗМАГЛІ ПАДАБРАЦЦА ДА ЛОДЦЫ, І ЦЯПЕР УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЖАЛЕЗНАГА ЧАЛАВЕКА.


А КАЛІ І ЁН НЕ ВЫЦЯГНЕ ІХ, ПЁТР? ШТО КАЛІ ЯГО ДАСПЕХІ НЕ ВЫТРЫМАЮЦЬ НА ТАКОЙ ГЛЫБІНІ?
ТЫ Ж ЧЫТАЛА АРТЫКУЛ, МАРВЕЛ. ТОНІ СТАРК СТВАРЫЎ КАСЦЮМ, ЯКІ МОЖА ВЫТРЫМАЦЬ УСЁ: АД МАРЫАНСКАЙ ЗАПАДЗІНЫ, ДА ШПАЦЫРУ ПА ЛУНЕ.


ВЕДАЕШ, Я НЕ РАЗУМЕЮ, ПЁТР, ЯК ТЫ МОЖАШ СПАКОЙНА СЯДЗЕЦЬ І ЕСЦІ Ў ТОЙ ЧАС, ЯК ЛЮДЗЯМ ПАТРЭБНА ТВАЯ ДАПАМОГА?
ПРАФЕСАР ІКС НЕ ДЛЯ ГЭТАГА ВЫРАТАВАЎ ЦЯБЕ АД МАФІІ. ТЫ НЕ ЛІЧЫШ, ШТО ПАВІНЕН ДАПАМАГЦІ ЯМУ ЗНАЙСЦІ ЗНІКЛАГА СЫНА?


НЕ, Я ЛІЧУ, У МЯНЕ ЁСЦЬ РЭЧЫ БОЛЬШ ВАЖНЫЯ, ЧЫМ АБАВЯЗКІ ПЕРАД ГЭТЫМ ЗДУРНЕЛЫМ. МЯНЕ БОЛЬШ НЕ ЦІКАВЯЦЬ ЯГО ВАР'ЯЦКІЯ МІСІІ.


ТЫ ЛІЧЫШ ПРАФЕСАРА ЗВАР'ЯЦЕЛЫМ?


А ЯК ЯШЧЭ МОЖНА НАЗВАЦЬ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ АБАРАНЯЕ МОНСТРА, ШТО ЗАБІЎ ТЫСЯЧЫ ЛЮДЗЕЙ?
КАЛІ ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО МАГНЕТА МОЖНА РЭАБІЛІЦІРАВАЦЬ НЕЙК ІНАЧАЙ, ЧЫМ ЗАТРЭЛІЦЬ ЯГО, ЗНАЧЫЦЬ ХАЎЕР І ВАМ ПРАМЫЎ МАЗГІ.
Я ПРОСТА ХАЧУ БЫЦЬ СА СВАЁЙ СЯМ'ЁЙ. ШТО ДРЭННАГА Ў ТЫМ, ШТО МНЕ ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ ЯК УСЕ?




























ДОБРЫ ВЧАР, СПАДАРЫ І СПАДАРЫНІ. ВЫ ГЛЯДЗІЦЕ «ГЛОБАЛ НЬЮЗ»




ГАДЗІНЫ МАРАКОЎ, ШТО ПАХАВАНЫ Ў ПАТАНУЛАЙ СУБМАРЫНЕ, НА ЗЫХОДЗЕ.




І ДЗЕ Ж УСЕ ТАК ЗВАНЫЯ СУПЕРГЕРОІ, КАЛІ ЯНЫ НАМ ТАК ПАТРЭБНЫ?




НАДЗЕІ НА ДАПАМОГУ ТОНІ СТАРКА НЕ СПРАЎДЗІЛІСЯ, БО ЁН ЗАНЯТЫ ІНШЫМІ СПРАВАМІ.




МЫ СПАЧУВАЕМ СЕМ'ЯМ АДВАЖНЫХ МАРАКОЎ, ЯКІЯ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ЦІ ВЕРНУЦЦА ІХ СЫНЫ ДАДОМУ...








ДОБРА, ТОНІ СТАРК ЗАСТРАЎ ДЗЕСЬЦІ Ў КОСМАСЕ, АЛЕ ТУТ ЁСЦЬ БРЫТАНСКІЯ, НЯМЕЦКІЯ І ФРАНЦУЗСКІЯ ВАДАЛАЗЫ, ЯКІЯ ДАПАМОГУЦЬ ТАБЕ, ПРЫЯЦЕЛЬ.
КАЛІ ЎЗНІКНУЦЬ ПРАБЛЕМЫ І ТЫ ЗРАЗУМЕЕШ, ШТО НЕ ЗМОЖАШ ВЫЦЯГНУЦЬ ЛОДКУ, ПРОСТА ДАЙ СІГНАЛ, І МЫ ЦЯБЕ ХУТКА ВЫЦЯГНЕМ...
ПРАБЛЕМ НЕ БУДЗЕ, ПАЛКОЎНІК...
ХТО, ЯК НЕ КАЛОС ЗМОЖА ГЭТА ЗРАБІЦЬ?






ВЫ СЛУХАЕЦЕ НАВІНЫ BBC З ДЖОРДЖАМ АЛАГЕМ. МЫ ВЯДЗЕМ РЭПАРТАЖ КОЖНЫЯ 15 ХВІЛІН.
ПАТАНУЛАЯ ЛОДКА К-14 ВЫРАТАВАНА!


ДЭТАЛІ ПАКУЛЬ НЕВЯДОМЫ, АЛЕ ДВЕ ГАДЗІНЫ НАЗАД АГЕНСТВА НАВІН ПАРАДЗІЛІ ПРАДСТАЎНІКАМ ЗАМЕЖНЫХ КАМПАНІЙ ПРЫЕХАЦЬ НА МЕСЦА ДЛЯ ВЫСВЯТЛЕННЯ ПАДРАБЯЗНАСЦЕЙ...


Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ЎСЁ ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ! АЛЕ Я НЕ ПАЕДУ ТУДЫ БЕЗ ФАТОГРАФА. ТАМУ ДАПІВАЙ СВАЁ ПІВА І ПАЙШЛІ!


О БОЖА ТЫ МОЙ!
ГЭТ САПРАЎДНАЯ СЕНСАЦЫЯ!


БОЖА МОЙ!
ШТО ВЫ АДЧУВАЕЦЕ, ЯК СТАЛІ САМЫМ ЗНАКАМІТЫМ СУПЕРГЕРОЕМ НА ПЛАНЕЦЕ, КАЛОС?
ШЧЫРА?


Я ЎРАЖАНЫ!


МОЙРА ПАЕХАЛА СУСТРАКАЦЬ КАЛОСА РАЗАМ З АСТАТНІМІ?


НЕ, ЯНА СКАЗАЛА, ШТО ВЕРНЕЦЦА Ў ГАТЭЛЬ, КАБ АДПАЧЫЦЬ. ЯНА ЯШЧЭ НЕ ПРЫЙШЛА Ў СЯБЕ ПАСЛЯ ТАГО ВЫПАДКУ.
CARRBUCKS COFFEE


МАЕ ВУЧНІ ЎСХВАЛЯВАНЫ З-ЗА ВЯРТАННЯ КАЛОСА.
МЯРКУЮ, ЯНЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ЯК НЕДААЦЭНЬВАЛІ ЯГО ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС. ТАМУ ЯНЫ ЎСЕ ТАК КІНУЛІСЯ ЯГО СУСТРАКАЦЬ.


ГЭТА ТАК МІЛА? ВІДАЦЬ, ВЫ РАДЫЯ, ШТО ЦЯПЕР УСЕ ВАШЫ ВУЧНІ Ў ЗБОРЫ.


О ТАК. ТАК САМА, ЯК І ТЫ. У ЦЯБЕ З'ЯВІЛАСЯ МАГЧЫМАСЦЬ РЭАЛІЗАВАЦЬ СВОЙ ПЛАН ПОМСТЫ.
CARRBUCKS


БО ТЫ ГЭТАГА ЧАКАЎ, ДЭВІД?


КАЛІ ТЫ ДАВЕДАЎСЯ, ШТО ГЭТА Я, ТАТА?
У РЭСТАРАНЕ, КАЛІ МЫ АБЕДАЛІ.
Я ПАЧАЎ ПАДАЗРАВАЦЬ НЯСКЛАДНАЕ, КАЛІ ТЫ ЗАГЛЯДЗЕЎСЯ НА АФІЦЫЯНТКУ. НУ А ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ТЫ ЗАМОВІЎ ТРЫ ПОРЦЫІ БУЛЬБЫ З КЕТЧУПАМ, Я ЎСЁ ЗРАЗУМЕЎ.































ПАБАЧЫМ...

Працяг будзе...









# ЛЮДЗІ-ІКС: СУСВЕТНЫ ТУР

## частка чацвертая

ПРА ШТО ТЫ ГАВОРЫШ, ШТОРМ?

ПАГЛЯДЗІ, ДА ПРЫКЛАДУ, НА МЯНЕ... Я – НЕВЫНОС-НАЯ МАЛЕНЬКАЯ ВЕДЗЬМА З КРЫМІНАЛЬНЫМ МІНУЛЫМ. А ЗАРАЗ Я ЕДУ Ў АЭРАПОРТ, КАБ ПАВІНШАВАЦЬ КАЛОСА З ВЯР-ТАННЕМ У КАМАНДУ.

ПРАБАЧЦЕ, КАНЕШНЕ, РАБЯТЫ, АЛЕ НА МЯНЕ ГЭТА НЕ ПАДОБ-НА. АКРАМЯ ТАГО, ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ПЕРАСЛЕДВАЦЬ ДРЭН-НЫХ ХЛОПЦАЎ, НАКШТАЛТ ПРА-ФЕСАРСКАГА СЫНКА? ГЭТА ТАК НА МЯНЕ НЕ ПАДОБНА!

НІКОЛІ ЯШЧЭ Я НЕ АДЧУВАЛА СЯБЕ ТАКОЙ СКАВАНАЙ. ВАМ НІ АБ ЧЫМ ГЭТА НЕ ГАВОРЫЦЬ, ХЛОПЧЫКІ?

ВАМ НЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ЁН МАНІПУЛЮЕ НАШЫМІ ДУМКАМІ І ДЗЕЯННЯМІ, ТАК ЖА, ЯК ЁН РОБІЦЬ ГЭТА З МАГНЕТА?

НЕ, НАЎРАД ЦІ.

КАЛІ ПРАФЕСАР ПРАМЫВАЕ НАМ МАЗГІ, КАБ ЗРАБІЦЬ З НАС АДВАЖНЫХ МАЛЕНЬКІХ СУПЕРГЕРОЯЎ, ТАДЫ ЧАМУ Я СТРАЧВАЮ АПЕТЫТ КОЖНЫ РАЗ, ЯК ДУМАЮ ПРА ЯГО СЫНКА-ПСІХАПАТА?

ДОБРАЕ ПЫТАННЕ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД.

...КАЛІ ЁН ТОЛЬКІ НЕ ЗА-ПУЖВАЕ ЦЯБЕ, ТАДЫ ТВОЙ АРГУМЕНТ ПРЫМАЕЦЦА.

О, БОЖА! ШТО ГЭТА ЯШЧЭ ТАКОЕ?


Праферас Хаўер


Цыклоп


Марвел


Шторм


Расамаха


Чалавек-лёд


Звер


Калос

# У мінулым выпуску:

Расамаха, Цыклоп, Марвел, Шторм, Звер, Калос і Чалавек-Лёд. Яны - Людзі Ікс, мутанты, аб'яднаныя прафесарам Чарльзам Хаўерам, які навучыў іх кіраваць сваёй неверагоднай сілай. Прафесар Ікс марыць аб міры між людзьмі і мутантамі. З нагоды выхаду новай кнігі Хаўер разам са сваімі вучнямі накіроўваецца ў сусветны тур.

Нечакана прафесару тэліць яго былая жана - Мойра Мактаггерт. Яна паведамляе аб тым, што іх сын уцёк з закрытай лякарні на востраве Муір. Дэвід валодае здольнасцю перасяляцца ў целы іншых людзей і вельмі небяспечны. Людзі Ікс разам з агентамі сакрэтнай арганізацыі Удар - Дэем Томасам і Бэтсі Брэдак - спрабуюць высачыць Дэвіда, але ён кожны раз выслізвае з іх рук. Нарэшце, Бэтсі з дапамогай тэлепатыі высвятляе, што Дэвід знаходзіцца ў Берліне. Уся каманда накіроўваецца на яго пошукі.

Тым часам Марвел і Цыклоп едуць у Расію, каб адшукаць зніклага Калоса. Яны знаходзяць яго ў Санкт-Пецярбургу. Калос хоча пакінуць каманду і жыць як звычайны чалавек. Аднак катастрофа з падводнай лодкай, што затанула ў Барынцавым моры, вымушае яго змяніць сваё рашэнне. Калос ратуе маракоў, падняўшы лодку са дна. Ён разумее, што яго месца каля Людзей Ікс.

Між тым прафесар Хаўер даведваецца, што Дэвід перасяліўся ў цела Бэтсі Брэдак і з яе дапамогай вырашыў заманіць Людзей Ікс у пастку. Прафесар абяцае, што спыніць Дэвіда любой цаной...



Стэн Лі прадстаўляе:

# ЛЮДЗІ-ІКС

Марк Мілар - сцэнар

Крыс Бачала - мастак | Дэйв Сцюарт - туш | Дж.Д. Сміт - колер

Ральф Маччына - рэдактар | С.Б. Себульскі - ас. рэдактара | Браэн Сміт - ас. рэдактара

Джо Кесада - шэф-рэдактар | Біл Джэмас - прэзідэнт і аўтар ідэі

І НА ШТО ГЭТА ПАДОБНА, РАСАМАХА?

ЦЯПЕР У ЧАЛАВЕКА-ЛЬДА ЁСЦЬ НАГОДА ДЛЯ СТРАХУ!


БЭТСІ? ГЭТА ТЫ?


ЦЕЛА БЭТСІ, АЛЕ СВЯДОМАСЦЬ – МАЯ.
САПРАЎДЫ, СМЕШНА? Я ПЕРАСЯЛІЎСЯ Ў ВАШУ СЯБРОЎКУ – ТЭЛЕПАТКУ І ЎВЕСЬ ЧАС БЫЎ КАЛЯ ВАС. ПАКУЛЬ ВЫ, БЛАЗАНЫ, КАТАЛІСЯ ПА ЕЎРОПЕ, РАСШУКВАЮЧЫ МЯНЕ.


УЯВІЦЕ, ЯК МНЕ БЫЛО ЦЯЖКА СТРЫМЛІВАЦЬ СМЕХ!


А ШТО Ў ЦЯБЕ ВЫКЛІКАЕ СМЕХ? ЗАБІЦЦЁ НЯВІННЫХ ДЗЯЎЧЫН?


О, БЭТСІ БРЭДАК ЦЯЖКА НАЗВАЦЬ НЯВІННАЙ, ТАТА.
МЫ ГАВОРЫМ НЕ ПРА МУТАНАТАЎ, ЯКІЯ ЗМЯНЯЮЦЬ СВАЕ ПРОЗВІШЧА, КАБ РАТАВАЦЦА АД ВАРТАВЫХ. ПЕРАД НАМІ КРЫВАДУШНІЦА, ЯКАЯ ПРАЦАВАЛА НА САКРЭТНУЮ СЛУЖБУ І ПЕРАСЛЕДВАЛА СВАІХ ЖА БРАТОЎ.


І ПОТЫМ У ГЭТЫМ АПЕТЫТНЫМ МАЛЕНЬКІМ ЦЕЛЕ ЁСЦЬ ПУХЛІНА, ПРА ІСНАВАННЕ ЯКОЙ БЭТСІ НАВАТ НЕ ВЕДАЛА. У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, ЯНЫ Б ДОЎГА НЕ ПРАЦЯГНУЛА.


ДЗЕЛЯ БОГА, ДЭВІД, ТЫ ЖА КАЖАШ ПРА ЧАЛАВЕКА, ГЭТА ПА-ВЫР'ЯЦКІ! КАЛІ ТЫ СПЫНІШСЯ ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ТАК ЖАХЛІВА? КАЛІ ТЫ СУПАКОІШСЯ?


КАЛІ Я СУПАКОЮСЯ?


ЯК НАКОНТ ТАГО, КАБ ПАКАЗАЦЬ ТАТУЛЕ, ЯК Я БУДУ ЗАБІВАЦЬ УСІХ ЛЮДЗЕЙ ІКС, ЯКІХ ЁН НАВУЧАЎ, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ПРАВОДЗІЦЬ ЧАС З НАМІ?
НЯДРЭННЫ ПЛАН, ГА?


ДОБРА, ХОПІЦЬ СЯМЕЙНЫХ РАЗБОРАК, ВЫЛАЗЬЦЕ ЎСЕ З МАШЫНЫ!
НІ ЗА ШТО! Я ЗАСТАНУСЯ ТУТ!


Я СКАЗАЎ, ВЫЛАЗЬ З МАШЫНЫ, ХЛОПЕЦ!


ОЙ, ТЫ НАПЭЎНА, ЖАРТУЕШ, РАСАМАХА!
Я ТОЛЬКІ ШТО ПЕРАБУДАВАЎ МАЛЕКУЛЫ ЦЕЛА БЭТСІ, КАБ СТАЦЬ ПАДОБНЫМ НА САМОГА СЯБЕ.


МЕНЯ НЕ СПУЖАЕ ІДЫЁТ, ТЫПУ ЦЯБЕ, НА ТАКОЙ РАЗДАЛБУХЕ!




БУМ!


ДАВАЙ, ТАТА. Я ВЫКАРЫСТАЎ ЗДОЛЬНАСЦІ БЭТСІ БРЭДАК, КАБ ПАЗБАВІЦЦА АД ТВАЙГО МАНІПУЛЯВАННЯ, АЛЕ ТЫ ПА-РАНЕЙШАМУ МОЖАШ ЗВЯРТАЦЦА ДА ЛЮДЗЕЙ ІКС ТЭЛЕПАТЫЧНА.
ЗАГАДАЙ ІМ, КАБ ПАЧЫНАЛІ БОЙ!
ЛЮДЗІ ІКС, ГАВОРЫЦЬ ХАЎЕР. НЕ ЗВЯРТАЙЦЕ ЎВАГІ НА ТОЕ, ШТО СКАЗАЎ ДЭВІД. ЁН ЯШЧЭ ПАЧАТКОВЕЦ І ДРЭННА КІРУЕ ЗДОЛЬНАСЦЮ ПЕРАБУДОЎВАЦЬ РЭЧАІСНАСЦЬ. НАША СТАНОВІШЧА НЕ ТАКОЕ БЕЗНАДЗЕЙНАЕ, ЯК ЗДАЕЦЦА.
ЗВЕР... АТАКУЙ СПЕРАДУ. ЧАЛАВЕК-ЛЁД І ШТОРМ, ПАСПРАБУЙЦЕ СКАМБІНАВАЦЬ СВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ, ЯК ВЫ РАБІЛІ ГЭТА НА ЗАНЯТКАХ. РАСАМАХЕ ТРЭБА 9-10 ХВІЛІН, КАБ АДНАВІЦЦА.
ПРАВІЛЬНА, РАБЯТЫ. ТОЛЬКІ ДАЙЦЕ МНЕ ПАРУ СЯКУНД, КАБ СКОНЧЫЦЬ З ГЭТЫМ КРЭТЫНАМ, А ЎЖО ПОТЫМ ЛАДЗЬЦЕ СВАЮ СНЕЖНУЮ БУРУ.
ШТО НАМ ЦЯПЕР РАБІЦЬ, ШТОРМ?
ШТО ТЫ ЧАКАЕШ, БОБІ? ДЗЕ ТВОЙ ЛЁД?
Я НЕ МАГУ! Я СПРАБУЮ, АЛЕ Ў МЯНЕ НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА! МАЁ ЦЕЛА НЕ СЛУХАЕЦЦА МЯНЕ Ў СІТУАЦЫЯХ, КАЛІ МНЕ ПАГРАЖАЕ СМЕРЦЬ!


ДЗЕЙНІЧАЙЦЕ РАЗАМ І ПРЫКРЫВАЙЦЕ МЯНЕ, БОБІ! ЗАРАЗ НЕ ЧАС БАЯЦЦА!




ГЕНРЫ МАКОЙ?




МОЖА, ПЕРАСТАНЕШ ВАЛТУЗІЦЦА З ДЭВІДАМ ХАЎЕРАМ І ПАДРЫХТУЕШСЯ, НАРЭШЦЕ, ДА ВЫПУСКНОГА ВЕЧАРА? ВАШЫ ДЗЯЎЧЫНЫ НЕ БУДУЦЬ СЯДЗЕЦЬ ТУТ ЗАЎЖДЫ.
НЕ КРЫЎДУЙЦЕСЯ, МІСІС МАКОЙ, АЛЕ МЫ З СІНДЗІ ГАТОВЫЯ СЯДЗЕЦЬ ТУТ ХОЦЬ УСЁ ЖЫЦЦЁ, АБЫ ПАЙСЦІ НА СПАТКАННЕ З САМЫМІ КРУТЫМІ ХЛОПЧЫКАМІ СА ШКОЛЫ. САПРАЎДЫ, СІНДЗІ?


ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ, ДЭВІД?
О, ПРОСТА ТРОХІ ЗМЯНЯЮ РЭЧАІСНАСЦЬ, КАБ ПАКАЗАЦЬ ТАБЕ, ЯКІМ МОЖА БЫЦЬ ТВАЁ ЖЫЦЦЁ ДОМА, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я РАСКВІТАЮСЯ З ТАТАВЫМІ ЛЮДЗЬМІ ІКС...


УЯВІ САБЕ СВЕТ, ДЗЕ Б ТВАЕ БАЦЬКІ НЕ ПІЛІ, ДЗЕ ТЫ МОГ ПАЙСЦІ НА ВЫПУСКНЫ БАЛ, ЯК І ЎСЕ АСТАТНІЯ РАБЯТЫ, І ДЗЕ ДЗЯЎЧЫНКІ МАЛЯВАЛІ Б НА ЎРОКАХ ТВАЕ ПАРТРЭТЫ.
Я МАГУ ЗРАБІЦЬ УСЁ ГЭТА ЗА АДНО ІМГНЕННЕ, ГЕНРЫ. ДАСТАТКОВА МНЕ ТОЛЬКІ ПСТРЫКНУЦЬ ПАЛЬЦАМІ, І ТЫ БУДЗЕШ ВЫГЛЯДАЦЬ, ЯК БРЭД ПІТ.


ПРОСТА ЗАБЕЙ АСТАТНІХ, І НІХТО БОЛЬШ НЕ НАЗАВЕ ЦЯБЕ ЗВЕРАМ. Я НАВАТ МАГУ ПРЫКОНЧЫЦЬ ТЫХ, ШТО НА ВУЛІЦЫ, КАЛІ ТЫ ВОЗЬМЕШ НА СЯБЕ ТРОХ СВАІХ СЯБРУКОЎ, ЯКІЯ ЛЯЦЯЦЬ ЗАРАЗ З РАСІІ.


ТЫ З ГЛУЗДУ З'ЕХАЎ? ЧАМУ Я ПАВІННЫ РАБІЦЬ ШКОДУ МАІМ СЯБРАМ ДЗЕЛЯ НЕРЭАЛЬНЫХ РЭЧАЎ?
А ТВАЕ АДНОСІНЫ СА ШТОРМ РЭАЛЬНЫ?
НЕ БУДЗЬ РАБЁНКАМ, ГЕНРЫ. ТАТА ПРОСТА ЗАГІПНАЦІЗІРАВАЎ ШТОРМ, КАБ З ЯЕ ДАПАМОГАЙ УТРЫМЛІВАЦЬ ЦЯБЕ Ў ШКОЛЕ. НЯЎЖО ГЭТА НЕ ВІДАВОЧНА?


ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, Я ПРАПАНУЮ ТАБЕ ПАКІНУЦЬ СПІС ДВАНАЦЦАЦІ САМЫХ ВЫРОДЛІВЫХ ЛЮДЗЕЙ ПЛАНЕТЫ.


ЗАПХНІ ПАСТКУ, ХЛУСЛІВЫ ІМБІЦЫЛ!




Я МОГ БЫ СКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ РОБІШ ВЯЛІКУЮ ПАМЫЛКУ, ЗВЕР...


...АЛЕ ПРАЎДА СКЛАДАЕЦЦА З ТАГО...


...ШТО Я ЗАБІЎ БЫ ЦЯБЕ Ў ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ!


ЧАЛАВЕК-ЛЁД, КАЛІ ТЫ НЕ ХОЧАШ МНЕ ДАПАМАГЦІ, ПРОСТА СЫЙДЗІ З ДАРОГІ І ДАЙ МНЕ З ІМ РАЗАБРАЦЦА!




ДЖЫНА! ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?

СКОТ, НАС АТАКУЮЦЬ! ТРЫМАЙ МЯНЕ ЗА РУКУ! Я СПРАБУЮ АБАРАНІЦЬ САМАЛЁТ АБАРОНЧЫМ ПОЛЕМ!




ТЫ НЯБЛАГІ ТЭЛЕПАТ. ШКАДА, ШТО ТВОЙ ДАР ПРАДБАЧАННЯ НЕ ПАПЯРЭДЗІЎ ЦЯБЕ АБ ТЫМ, ШТО ТЫ ПАМРЭШ У САМАЛЁЦЕ, РАЗЛЯЦІШСЯ НА КАВАЛКІ НАД БУДЫНКАМ РЭЙХСТАГА.

БУУМ!

НЕ!



















ТВАЕ АПТЫЧНЫЯ ПРОМНІ АБПАЛІЛІ МНЕ ВЕЙКІ!


ЧАЛАВЕК-ЛЁД, ЧАМУ ТЫ ТРЫМАЕШСЯ Ў БАКУ, КАЛІ ІНШЫМ ПАТРЭБНА ТВАЯ ДАПАМОГА? ДЗЕЛЯ БОГА, ДАПАМАЖЫ ІМ!
Я НЕ МАГУ, ПРАФЕСАР. Я СПРАБУЮ ВЫКАРЫСТАЦЬ СВАЮ СІЛУ, АЛЕ ЯНА МНЕ НЕ ПАДПАРАДКОЎВАЕЦЦА.


ТЫ НАПУЖАНЫ. МЫ ЎСЕ НАПУЖАНЫ. НАВАТ У РАСАМАХІ ДРЫЖАЦЬ КАЛЕНКІ. АЛЕ СА ЗДОЛЬНАСЦЯМІ ДЭВІДА ШТОСЬЦІ НЕ ТАК. І МЫ ПАВІННЫ ГЭТЫМ СКАРЫСТАЦЦА.
ХОПІЦЬ МЯНЕ КАТАВАЦЬ. КАЛІ З ГЭТЫМ ХЛОПЦАМ ТАК ЛЁГКА ЗЛАДЗІЦЬ, ЧАМУ ВЫ САМІ ЯГО НЕ ПРЫКОНЧЫЦЕ?


КАЛІ Б Я МОГ, ТАДЫ ЗРАБІЎ БЫ ГЭТА. АЛЕ ЁН УСЁ ЯШЧЭ Ў ЦЕЛЕ БЭТСІ. І Я НЕ МАГУ ПЕРААДОЛЕЦЬ ЯЕ ТЭЛЕПАТЫЧНУЮ АБАРОНУ.
ТЫ – АДЗІН З ТРОХ САМЫХ МАГУТНЫХ УДЗЕЛЬНІКАЎ КАМАНДЫ.


ТЫ ЖА НЕ ЗБІРАЕШСЯ ХАВАЦЦА, ПАКУЛЬ МОЙ СЫН БУДЗЕ ЗАБІВАЦЬ АРАРО МАНРО?
ГЭЙ, НЯЎДАЧНІК!


АДПУСЦІ ЯЕ!


ЧАЛАВЕК-ЛЕД!
ЁН ПАЖАРТАВАЎ ЦІ САПРАЎДЫ СПРАБАВАЎ МЯНЕ НАПУЖАЦЬ?
ТЫ ВЕДАЕШ, Я ХАЦЕЎ, КАБ ТЫ ПАКЛАПАЦІЎСЯ АБА МНЕ, ЯК ТЫ КЛАПАЦІЎСЯ АБ ГЭТЫХ МУТАНТАХ, БАЦЬКА.
АЛЕ ЯКОЕ ГЭТА ЦЯПЕР МАЕ ЗНАЧЭННЕ, КАЛІ Ў МЯНЕ ТАКСАМА ЁСЦЬ СІЛА? МАБЫЦЬ, МНЕ ПРЫДУМАЦЬ САБЕ КРУТОЕ ІМЯ, НАКШТАЛТ ПРАТЭЎСА, І АДШУКАЦЬ ТВАЮ САКРЭТНУЮ ШКОЛУ Ў НЮ-ЁРКУ?
КУДЫ МЫ ЛЯЦІМ, ДЭВІД?


У ПАРЫЖ, КАНЕШНЕ. ТЫ ЗБІРАЎСЯ НА-ВЕДАЦЬ ЯГО ПАСЛЯ ЛОНДАНА, КАЛІ Б Я НЕ ПЕРАШКОДЗІЎ ТВАЙМУ СУСВЕТНАМУ ТУРУ.
ТЫ НЕ ПАЗНАЕШ САБОР ПАРЫЖСКАЙ БОГАМАЦЕРЫ? ТРЫЎМФАЛЬНУЮ АРКУ? МІЛЁНЫ СТУДЭНТАЎ ЧЫТАЮЦЬ МАРСЭЛЯ ПРУСТА Ў ФАНТАНА Ў ЦЮІЛЬРЫ.
БОЖА, Я НЕНАВІДЖУ ФРАНЦУЗСКІ, А ТЫ?


ДЭВІД! ШТО ТЫ РОБІШ?
БУУМ!


ЗАБІВАЮ ДЗЕСЯТКІ НЕПАВІННЫХ ЛЮД-ЗЕЙ, ТАТА. АЛЕ ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК.
НАСТУПНЫ ПРЫПЫ-НАК ПАВІНЕН БЫЦЬ У МАДРЫДЗЕ. НЯЎЖО ІСПАНСКАЕ ГРАМАД-СТВА НАВУКОВЫХ ФАНТАСТАЎ НЕ ХАЦЕ-ЛА, КАБ ТЫ ВЫСТУПІЎ У ГАТЭЛІ ПАНАДЭРЫЯ НА ПЛАЗА МАЙОР?
ДЭВІД, ПРАШУ ЦЯБЕ! ДЗЕЛЯ БОГА...
ШТО Ж, ВЫСТУП СКОНЧЫЎСЯ, ТАТУЛЯ.
БУУМ!
РЫМ БЫЎ НАСТУП-НЫМ, ТАК? ШТО ТЫ ПЛАНАВАЎ ТАМ РАБІЦЬ, ТАТА? СХАДЗІЦЬ У АПОШНІ РАЗ У САБОР СВЯТОГА ПЯТРА І КАЛІЗЕЙ?
ПРАВЕСЦІ ЛЮДЗЕЙ ІКС ПА ЎСІМ ГЭТЫМ МУЗЕЯМ І ГАЛЯРЭЯМ, ЯКІМІ ТЫ ДАСТАВАЎ МЯНЕ ПАД ЧАС ЛЕТНІХ ВАКАЦЫЙ?
А ВОСЬ У СІДНЭЙ І МЕЛЬБУРН ТЫ САПРАЎДЫ ХАЦЕЎ ПАТРАПІЦЬ.
ПАСЛЯ ДЗЕСЯЦІ МІЛЬЁНАЎ ПАВЕДАМЛЕНЯЎ З АЎСТРАЛІІ, ДАСЛА-НЫХ НА ТВОЙ САЙТ, ТАБЕ НЕ ЧАКАЛАСЯ ДАВЕДАЦЦА, КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ ПАЖАДА-ЮЦЬ УЗЯЦЬ У ЦЯБЕ АЎТОГРАФ.
БУУМ!
БУУМ!


БУУМ!


ТУТ ЗАГІНУЛА ПЯЦЬСОТ ЧАЛАВЕК. НЕ, НЯХАЙ ІХ БУДЗЕ ТЫ-СЯЧА. РАНІШНІМ ГАЗЕ-ТАМ БУДЗЕ ПРА ШТО НАПІСАЦЬ.
ТЫ ПАЧЫНАЕШ РАЗ-УМЕЦЬ, ШТО Я РАБЛЮ? ЦЯПЕР ТЫ ЎЦЯМІЎ, ДЗЕ-ЛЯ ЧАГО ЎСЁ ГЭТА?


ТЫ ЗНІШЧАЕШ УСЁ, ДЗЕЛЯ ЧАГО Я ПРАЦАВАЎ, ДЭВІД.
ПРАВІЛЬНА, ТАТА. МЕНЬШ, ЧЫМ ЗА ПЯЦЬ ХВІЛІН, МЫ ЗАБІЛІ БОЛЬШ ЛЮДЗЕЙ, ЧЫМ БРАТЭР-СТВА. ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ БУДУЦЬ ЯНЫ СЛУХАЦЬ ТВАЕ СПОВЕДЗІ ПАСЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА?


НАЎРАД ЦІ. Я ХАЦЕЎ ПРАЕХАЦЦА І Ў НЮ-ЁРК. ПА НЕКАТОРЫМ ПРЫЧЫНАМ Я НЕ МАГУ ТУДЫ ДАБРАЦЦА.
АДНАК БЕРЛІН ТАКСА-МА ВАЖНАЕ МЕСЦА. БО ТУТ МЫ ПРАВЯЛІ НАШЫЯ АПОШНІЯ ВАКАЦЫІ РАЗ-АМ, САПРАЎДЫ?


ТЫ ПАМЯТАЕШ, ЧАМУ Я ПЛАКАЎ НА ФУТБОЛЬНЫМ МАТЧУ, КАЛІ «РЭЙНДЖЭРС» АДКВІТАЛІ Ў ЛІКУ? ТЫ ПА-МЯТАЕШ, ЧАМУ Я СКАЗАЎ, ШТО НЕ БУДУ БОЛЬШ З ТАБОЙ РАЗМАЎЛЯЦЬ?
ТАМУ, ШТО ТЫ ЎВЕСЬ МАТЧ ПРАСІДЗЕЎ С ЗАПЛЮШЧАНЫМІ ВАЧАМІ, ТАТА.
ТЫ ТЭЛЕПАТЫЧНА АБМЯРКОЎВАЎ НЕШТА З МАГНЕТА ЎСЕ ДЗЕ-ВЯНОСТА ХВІЛІН, І Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО Ў МЯНЕ БОЛЬШ НЯМА БАЦЬКІ.


ДЗЕЛЯ ЎСЯГО СВЯТОГА! ХТО-НЕБУДЗЬ, ДАПАМАЖЫЦЕ ЯМУ!
ЯНЫ НЕ ЗМОГУЦЬ ПРАКРАЦЦА ПРАЗ МАЁ АБАРОНЧАЕ ПОЛЕ. НІХТО НЕ ЗМОЖА. Я ВЕДАЮ, ТЫ НЕ ХОЧАШ, КАБ Я ГЭТА РАБІЎ, АЛЕ ПАВЕР МНЕ, ТАБЕ СПАДАБАЕЦЦА ГЛЯДЗЕЦЬ, ЯК ГАЛАВА МАЙГО ТАТУЛІ РАЗЛЯЦІЦЦА НА КАВАЛКІ!
СЫЙДЗІ З МАЙГО ЦЕЛА, ГНЮС!
ШТО?

ШТО ЧУЎ. Я СТРЫМЛІВАЛА ТВАЮ СІЛУ, ПРЫЦІСКАЛА ТВОЙ МОЗГ, А ЦЯПЕР Я ЗНІШЧУ ЦЯБЕ, ХЛАПЕЦ.
БЭТСІ?

НЕ! ЗНІКНІ З МАЁЙ ГАЛАВЫ, БРЭДАК! Я АДЗІН ТУТ УСЁ КАНТРАЛЮЮ! Я АДЗІН ПРЫМАЮ РАШЭННІ!
ТЫ ПЕРАСЯЛІЎСЯ Ў ЦЕЛА САМАГА МАГУТНАГА ТЭЛЕПАТА АНГЛІІ. БАЧЫШ, ЦЯПЕР НЕ ТЫ КІРУЕШ МНОЮ...

...А Я КІРУЮ ТАБОЮ!

БЭТСІ, ПАСЛУХАЙ МЯНЕ! КАЛІ ТЫ МОЖАШ КІРАВАЦЬ ЯГО СІЛАЙ, ПРЫМУСЬ ЯГО АДМЯНІЦЬ УСЕ ЖУДАСНЫЯ РЭЧЫ, ЯКІЯ ЁН ЗРАБІЎ! ПАСПРАБУЙ ВЯРНУЦЬ ТЫХ ЛЮДЗЕЙ ДА ЖЫЦЦЯ!
НЯМА ЧАСУ, ПРАФЕСАР!

ЁН ЗМАГАЕЦЦА З УСІХ СІЛАЎ. НАВАТ КАЛІ Ў МЯНЕ АТРЫМАЕЦЦА НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ ЯГО, Я ЗМАГУ СТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО НЕ БОЛЬШ ХВІЛІНЫ. АСТАТНЯЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВАС.

АБ ЧЫМ ТЫ?

А ВЫ ЯК ДУМАЕЦЕ? ІНСУЛЬТ, САРДЭЧНЫ ПРЫСТУП. РАБІЦЕ ЎСЁ, ШТО ЗМОЖА ЗНІШЧЫЦЬ ВАШАГА СЫНА, ПРАФЕСАР!

ТЫ ХОЧАШ, КАБ Я ЦЯБЕ ЗАБІЎ?

ТВОЙ ПЛАН НЕ СПРАЦАВАЎ, ВЕДЗЬМА. ТЫ ЗАБЫЛА, ШТО МАЕШ СПРАВУ З МАІМ ДАБРАСАРДЭЧНЫМ ТАТУЛЕЙ.

НЕ ГУБЛЯЙ ЧАС, ЧАРЛЬЗ! ЗАБЕЙ ЯГО!
НЕ, ПАВІНЕН БЫЦЬ ІНШЫ ВЫХАД, МОЙРА. Я НЕ ЗРАБЛЮ ГЭТАГА... КАЛІ ГЭТА ВАРВАРСТВА – АДЗІНЫ СПОСАБ ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ!

ПРАФЕСАР, У ВАС БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ ТАКОГА ШАНСА. Я НЕ МАГУ ЯГО СТРЫМЛІВАЦЬ...

О, БОЖА, ПРАБАЧ, БЭТСІ. МНЕ ВЕЛЬМІ ШКАДА, АЛЕ...

ЗАПХНІСЯ І ЗАБЕЙ МЯНЕ, НЯШЧАСНЫ СЛАБАК!

З ЗАДАВАЛЬ-НЕННЕМ!


ДЭВІД!!


УАУ.
ГЭТА БЫЛО... ММ... ГЭТА БЫЛО ПРОСТА...
УАУ.


ДОБРА ЗРОБЛЕНА.
О, БОЖА!
Я ЗРАБІЎ ТОЕ, ШТО ПАВІНЕН БЫЎ ЗРАБІЦЬ, ЦЫКЛОП. КАЛІ Ў ВАС БЫЛІ ІНШЫЯ ВАРЫЯНТЫ, Я Б З ЗАДА-ВАЛЬНЕННЕМ ІХ ВЫСЛУХАЎ.


ВЫКЛІЧЦЕ ХУТКУЮ!
БОБІ НЕ ДЫХАЕ!

Востраў Муір, Шатландыя

ЧАЛАВЕК, НАРОДЖАНЫ АД ЖАНЧЫНЫ СМЯРОТНЫ. ЯК КВЕТКА ЁН ЦЯГНЕЦЦА ДА СОНЦА, А ПОТЫМ ЗАВЯДАЕ, ЗНІКАЕ БЕЗЗВАРОТНА, ЯК ЦЕНЬ.

ЯГО ДНІ НА ЗЯМЛІ ВЫЗНАЧАНЫ ТАБОЮ. ТЫ ПРЫЗНАЧАЕШ ПАРОГ, ЯКІ ЯМУ НЕ ПЕРААДОЛЕЦЬ. ТАК І ЖЫВЕ ЁН, ПАКУЛЬ НЕ ПРЫЙДЗЕ ЯГО СМЯРОТНАЯ ГАДЗІНА.

КАЛІ ССЯКАЮЦЬ ДРЭВА, ЯНО ПАКІДАЕ КАРАНІ І АДНАЎЛЯЕЦЦА ЗНОЎ З ДРОБКІХ УСХОДАЎ.

АЛЕ ЧАЛАВЕК ЗНІКАЕ СА СМЕРЦЮ. ЁН КАНАЕ, І ЯГО БОЛЬШ НЯМА.

НІБЫТА ВАДА, ВЫПЛЕСНУТАЯ З МОРА, ЦІ ПЕРАСОХЛАЯ РАКА, ЧАЛАВЕК ПАМІРАЕ ! НЕ ВЯРНАЕЦЦА ЗНОЎ.

ТЫ РАЗМАЎЛЯЛА З БАЦЬКАМ БЭТСІ?

ЛОРДАМ БРЭДАКАМ? Я ПАЗНАЁМІЛАСЯ З ІМ У ЦАРКВЕ, ЧАРЛЬЗ. ЁН СКАЗАЎ, ШТО ЯМУ СУМНА ЧУЦЬ ПРА ДЭВІДА. І ДАЎ МНЕ МАЛЕНЬКІ МАЛЕБНІК, КАБ Я ХОЦЬ ТРОХІ СУЦЕШЫЛАСЯ.

ШТО ГЭТА ЗА ЧАЛАВЕК? ЁН ПРАЛЯЦЕЎ 800 МІЛЯЎ, КАБ ВЫКАЗАЦЬ СЛОВЫ СПАЧУВАННЯ ЛЮДЗЯМ, ЯКІЯ ПА-СУТНАСЦІ ЗАБІЛІ ЯГО ДАЧКУ.

ВІДАЦЬ, ЁН – ВЫДАТНЫ ЧАЛАВЕК. ЁН СКАЗАЎ, ШТО БЫЎ ГАТОВЫ ДА ГЭТАГА З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК БЭТСІ ПАЙШЛА ПРАЦАВАЦЬ У ВЫВЕДКУ.

НЕ ДУМАЮ, ШТО НА ЯГО МЕСЦЫ Я ЗРАБІЛА БЫ ТАКІМ ЖА ЧЫНАМ. Я НЕ ЎПЭЎНЕНА, ШТО Ў МЯНЕ ХОПІЦЬ ДУХУ З'ЯВІЦЦА НА ЯЕ ПАХАВАННІ.

ЦІ НЕ ПРАЎДА ДЗІЎНА? МАЕ ВУЧНІ НАВАТ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО СКАЗАЦЬ МНЕ.

ЯНЫ ЎСЕ БЯССТРАШНА ЗМАГАЛІСЯ З МАГНЕТА. А ЗАРАЗ УСЕ, АКРАМЯ РАСАМАХІ, БАЯЦЦА ПАГЛЯДЗЕЦЬ МНЕ Ў ВОЧЫ.

ЦЯПЕР Я РАЗУМЕЮ, НАКОЛЬКІ ЯНЫ МАЛАДЫЯ, І ЯКІЯ ЖУДАСНЫЯ РЭЧЫ Я НАРАБІЎ.

ШТО?













**Працяг будзе...**

ULTIMATE X-MEN

ISSUE 20

ЗВАЛЬНЕННЕ



.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС
#20 (2001)
ПЕРАКЛАД І
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

САЙТ: COMICSBY.BY
VK: VK.COM/COMICS_BY
КРАМА КОМІКСАЎ:
COMICSKRAMA.BY

MILLAR
KUBERT
MIKI

MARVEL







Людзі-Ікс:


ТЫ ЗАБІЛА МАЮ СЯБРОЎКУ, ЗЛЫДНЯ! Я ВЫЙШАЎ НА СВАЁ ПЕРШАЯ ЗАДАННЕ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК СТАЎ ТЭРАРЫСТАМ, А ТЫ СКІНУЛА ЯЕ З ДАХУ!


Прафесар Ікс:




МАГЧЫМА, ТАБЕ НЕ ПАШКОДЗЯЦЬ НЕКАЛЬКІ СЕАНСАЎ ФІЗІЯТЭРАПІІ?


ВЕДАЕШ, ГЭТА ПАЦЕШНА, ПРЫЯЦЕЛЬ. ТВАЕ СЯБРЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗНІШЧЫЛІ МОЙ АТРАД. ПАБАЧЫМ, ЯК ТЫ ПАЧНЕШ УСМІХАЦЦА, КАЛІ Я ЗЛАДЖУ ТУТ ДРУГУЮ ХІРАСІМУ!











Мой дарагі, Скот.

Да таго часу, як вы вернецеся з Новай Зеландыі, я ўжо складу рэчы і з'еду. Я прашу прабачэння за тое, што не магу сказаць табе гэта асабіста, але ты ведаеш, што мы, тэлепаты, не занадта спрытныя ў сучных прамовах.


















НА САМОЙ СПРАВЕ, НАМЕР РТУЦІ ПАЙСЦІ НА ПЕРАМОВЫ – ДАВОЛІ СУМНІЎНА. ЯГО ПЕРАМОВЫ З ААН ВЫКЛІКАЛІ БУРУ АБУРЭННЯ СЯРОД ЯГО ПРЫХІЛЬНІКАЎ.

У МЯНЕ ТАКІЯ ПАДАЗРОНЫ, ШТО «СЛУЖКІ МАГНЕТА» – ДАЛЁКА НЕ АПОШНЯЯ ГРУПОЎКА, ЯКАЯ АДШЧЭПІЦЦА АД ІХ.

А, СМЕЦЦЕ ЎСЁ ГЭТА, У МЯНЕ КУЛІ ЗАСТРАЛІ ПАД СКУРАЙ, І Я ДАГЭТУЛЬ НЕ МАГУ ІХ ВЫЦЯГНУЦЬ. ЯК Я ЦЯПЕР ПАЙДУ НА СПАТКАННЕ Ў ТАКІМ ВЫГЛЯДЗЕ?

ВЕДАЕШ, ЛОГАН, Я РАДЫ, ШТО ВЯРНУЎСЯ ДА ВАС.
















УСЁ МАГЧЫМА.


ПАСЛУХАЙЦЕ, МІЖ ІНШЫМ, МЯНЕ КЛІЧУЦЬ ЭРЫК ЛЕНШЭР. Я – НАСТАЎНІК ЧАЦЬВЁРТАГА КЛАСА Ў ШКОЛЕ ДЛЯ СЛАБАРАЗВІТЫХ ДЗЯЦЕЙ У БРОНКСЕ, АЛЕ, ПЭЎНА, МММ...
ВЫ ДУМАЕЦЕ, ШТО Я ЎЖО ВЕДАЮ ГЭТА, ТАК? ГЭТА ПРАЎДА, ЭРЫК, БАЮСЯ, ШТО МЯНЕ ЦЯЖКА БУДЗЕ ЧЫМ-НЕБУДЗЬ ЗДЗІВІЦЬ. Я Ж ТЭЛЕПАТ.


ДЫК ШТО ВЫ ТУТ РОБІЦЕ? Я ЧУЎ, ШТО ЛЮДЗІ ІКС ЗАРАЗ У НОВАЙ ЗЕЛАНДЫІ, ЗМАГАЮЦЦА З УЗБРОЕНЫМІ ТЭРАРЫСТАМІ, ЯКІЯ СЫШЛІ З БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ.
МАЕ ВУЧНІ ЗАРАЗ У НОВАЙ ЗЕЛАНДЫІ. АЛЕ ГЭТА ІХ АПОШНЯЯ МІСІЯ ПАД МАІМ КІРАЎНІЦТВАМ. СЁННЯ Ў АПОЎНАЧЫ Я ЗАКРЫВАЮ ШКОЛУ.


ВЫ СУР'ЁЗНА?
НАЖАЛЬ, ТАК.


А ЯК ЖА ВАШЫЯ МІРНЫЯ ІДЭІ, ПРА ЯКІЯ ВЫ РАСКАЗВАЛІ ЛЮДЗЯМ У СВАЁЙ КНІЗЕ? ЧАМУ ВЫ ТАК РАПТАМ АД УСЯГО АДМАЎЛЯЕЦЕСЯ?
ВЫ ЖА ЧЫТАЕЦЕ ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ, МІСТАР ЛЕНШЭР. Я ЎПЭЎНЕНЫ, ВЫ ВЕДАЕЦЕ ПРА ТОЕ, ШТО МОЙ СЫН НАРАБІЎ У ПАРЫЖЫ І Ў РЫМЕ?


ВЫ НЕ МОЖАЦЕ НЕСЦІ АДКАЗНАСЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ЗРАБІЎ ВАШ СЫН, ПРАФЕСАР. УЖО СТОЛЬКІ ЎСЯГО БЫЛО СКАЗАНА ПРА ТОЕ, ШТО МАГЛА АДБЫЦЦА КАТАСТРОФА, КАЛІ Б ЛЮДЗІ ІКС НЕ СПЫНІЛІ ЯГО.
АЛЕ ВАМ НЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ГЭТА ПАВІНЕН БЫЎ ЗРАБІЦЬ Я?


Я АДПРАВІЎСЯ Ў СУСВЕТНЫ ТУР, КАБ ВЫСТУПІЦЬ СУПРАЦЬ ГВАЛТУ, А МАЕ ВУЧНІ, СПРАБУЮЧЫ НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ СУПРАЦІЎНІКА, РАСПЛЮШЧЫЛІ ЯГО АЎТАМАБІЛЬ.


АБ ЧЫМ ВЫ? ВЫ ЗАСМУЧАНЫЯ З-ЗА ТАГО, ШТО КАЛОС ЗДЗЯЙСНІЎ ЗАБОЙСТВА?
ЗУСІМ НЕ, НАСУПРАЦЬ...


...Я ПАЧЫНАЮ ДУМАЦЬ, ШТО, МАГЧЫМА, ЁН МЕЎ РАЦЫЮ.

## Небяспечная зона:

ПАСЛУХАЙ, ДАРАГІ, ТЫ ШТО-НЕБУДЗЬ ЕЎ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК МЫ СПЫНЯЛІСЯ НА ДАЗАПРАЎКУ Ў ЛАС-АНЖЭЛЕСЕ? НЕ ХОЧАШ СХАДЗІЦЬ У ГОРАД І ПЕРАКУСІЦЬ ТРОХІ?

НА САМОЙ СПРАВЕ, Я ЎЖО АТРЫМАЎ СВАЮ ДЗЁННУЮ НОРМУ ВУГЛЕВОДАЎ, АРАРО, АЛЕ ЎСЁ РОЎНА ДЗЯКУЙ ЗА ПРАПАНОВУ.

РАЗУМЕЕШ, ВІРТУАЛЬНЫ ПАКОЙ ДЛЯ ТРЭНІРОВАК ЗНОЎ ЗАПРАЦАВАЛА, І ТАМУ Я СПРАБУЮ ЗРАБІЦЬ ЯЕ БОЛЬШ РЭАЛІСТЫЧНАЙ. ДА ШЧАСЦЯ, ПРАФЕСАР ПАКІНУЎ МНЕ ПОЛЕ ДЛЯ ДЗЕЙНАСЦІ.

МАБЫЦЬ, ТАДЫ СХОДЗІМ У КІНО?

ВЕДАЮ, ТЫ – НЕ АМАТАР КАМЕДЫЙ З ЭДЗІ МЕРФІ, АЛЕ МЫ МОЖАМ ПАЙСЦІ НА ФЕСТЫВАЛЬ ЕЎРАПЕЙСКАГА КІНО, ПРА ЯКІ ТЫ РАСКАЗВАЎ СЁННЯ РАНІЦАЙ КАЛОСУ.

А НАВОШТА? ТАБЕ Ж НЕ ПАДАБАЮЦЦА ФІЛЬМЫ З СУБТЫТРАМІ.

СХАДЗІ ЛЕПШ НА КАМЕДЫЮ З ЭДЗІ МЕРФІ. ЗАПРАСІ КАЛОСА ЦІ ЯШЧЭ КАГО-НЕБУДЗЬ. СА МНОЙ УСЁ БУДЗЕ ДОБРА.

ДЗЕЛЯ БОГА, ГЕНРЫ, КАЛІ ТЫ СПЫНІШСЯ?

ЯК СПЫНЮСЯ?

РАЗМАЎЛЯЦЬ СА МНОЙ, ЯК З ВЫПАДКОВАЙ ЗНАЁМАЙ. НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ НАЗАД МЫ ДУМАЛІ ПРА ТОЕ, КАБ ЖЫЦЬ РАЗАМ. А ЦЯПЕР У ЦЯБЕ ПОЎСЦЬ УСТАЕ НА ДЫБКІ, ЯК ТОЛЬКІ Я ЎВАХОЖУ Ў ПАКОЙ.

І НАВОШТА Я ТОЛЬКІ ВЫКАЗАЛА ЗДАГАДКУ, ШТО ПРАФЕСАР З ДАПАМОГАЙ СВАІХ ЗДОЛЬНАСЦЯЎ МАНІПУЛІРУЕ НАШАЙ СВЯДОМАСЦЮ?

АЛЕ ТАДЫ ЎСЁ АТРЫМЛІВАЕ СЭНС. ТЫ ТАК НЕ ЛІЧЫШ? А ЯК ІНАЧ ТАКАЯ ДЗЯЎЧЫНА, ЯК ТЫ, МАГЛА ЗАЦІКАВІЦЦА ЧАЛАВЕКАМ, ЯКІ ТАКІ ПАЧВАРНЫ, ЯК ЯК?

БО Я ЦЯБЕ КАХАЮ!

ЦІ ПРОСТА ПРАФЕСАР ХОЧА, КАБ Я ТАК ЛІЧЫЎ, БО ЯМУ ПАТРЭБНА МАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ У ШКОЛЕ.

ШТО, КАЛІ СЫН ХАЎЕРА НЕ СХЛУСІЎ, АРАРО?

Я КАХАЮ ЦЯБЕ НАСТОЛЬКІ, ШТО ГАТОВЫ ПРАМА ЗАРАЗ РАСЦАРАВАЦЬ, АЛЕ Я НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЎСЁ ГЭТА АДБЫВАЕЦЦА НА САМОЙ СПРАВЕ.


АБ ЧЫМ ВЫ КАЖАЦЕ? ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ПАМЫЛЯЛІСЯ? НА ВАШУ ДУМКУ, ГВАЛТ – АДЗІНАЕ, ШТО ПАДЗЕЙНІЧАЛА Б У ДАДЗЕНАЙ СІТУАЦЫІ?
КАЛІ ШЧЫРА, Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ШТО ДУМАЦЬ, ЭРЫК. КОЖНЫ ЭТАП ЭВАЛЮЦЫІ СУПРАВАДЖАЎСЯ КРЫВАПРАЛІЦЦЁМ. І ЧАМУ НАШЧАДКІ ДЗІДЗЕЙ ПАВІННЫ ЧЫМСЬЦІ АДРОЗНІВАЦЦА?

МАГЧЫМА, МАГНЕТА МЕЎ РАЦЫЮ, І Я – ТОЛЬКІ РАМАНТЫЧНЫ ІДЭАЛІСТ, ЯКІ СПРАБУЕ АЦЦЯГНУЦЬ НАСТУПЛЕННЕ БУДУЧЫНІ З ДАПАМОГАЙ СВАЁЙ ЗАВУМНАЙ ІДЭАЛОГІІ І КАМАНДЫ ЗЯЛЁНЫХ ЮНАКОЎ.
МАГЧЫМА, Я ЧАПЛЯЮСЯ ЗА СТАРАМОДНЫЯ ЧАЛАВЕЧЫЯ ПАЧУЦЦІ, ЯКІЯ ЭВАЛЮЦЫЯ ПАВІННА ЗНІШЧЫЦЬ.

МАЯ СЯБРОЎКА ПРАЧЫТАЛА АРТЫКУЛ У ІНТЭРНЭЦЕ ПРА ТОЕ, ШТО ТАКТЫКА МАГНЕТА БЫЛА ВЕЛЬМІ БЛІЗКАЯ ДА ТРАДЫЦЫЁННЫХ ПАВОДЗІН ЛЮДЗЕЙ.
ПРЫМУСІЦЬ СВАІХ ВОРАГАЎ ПАДПАРАДКАВАЦЦА ТАБЕ – ГЭТА ВЫДАТНАЯ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЯ ІДЭЯ ДЛЯ ТАГО, ХТО ЎЯВІЎ СЯБЕ ПРАДВЕСНІКАМ НОВАГА ЗАЛАТОГА ВЕКУ.

МНЕ ЗДАЕЦЦА, ВЫ ПЕРААЦЭНЬВАЕЦЕ МАЮ ЗНАЧНАСЦЬ, МІСТАР ЛЕНШЭР...
НАВАТ БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ СТАЛА ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА ВАШЫХ УКАЗАННЯЎ І СПРАБУЕ ДАБІЦЦА СВАІХ МЭТАЎ ШЛЯХАМ КАМПРАМІСАЎ І ЗГОДЫ.
НЯЎЖО ВЫ МОЖАЦЕ ЎЙСЦІ ЗАРАЗ І БРОСІЦЬ УСЁ?

ПАГЛЯДЗІЦЕ НА МЯНЕ. НЯЎЖО, НА ВАШУ ДУМКУ, Я ПАДОБНЫ НА РАТАЎНІКА ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАГА СТАГОДДЗЯ?
Я МАГУ РАЗВАЖАЦЬ ПРА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ І ПОСТЧАЛАВЕЧУЮ ЭКАНОМІКУ, АЛЕ НА САМОЙ СПРАВЕ Я – ПРОСТА НЯЧУЛЫ ЭГАІСТ.

МОЙ СЫН ЗАГІНУЎ, А Я НАВАТ НЕ ЗАПЛАКАЎ НА ЯГО ПАХАВАННІ. МАЁЙ ЖАНЕ ПАТРАБУЕЦЦА ПАДТРЫМКА, А Я РАЗВАЖАЮ ПРА ПЛЯМЫ ТУШЫ, ЯКІЯ ЯНА ПАКІНУЛА Ў МЯНЕ НА КАШУЛІ, КАЛІ РЫДАЛА НА МАІХ ГРУДЗЯХ.

СМЕРЦЬ ДЭВІДА ПАКАЗАЛА, ШТО Я БЫЎ НІКЧЭМНЫМ БАЦЬКАМ. ЧАМУ Я ВЫРАШЫЎ, ШТО МАГУ НАВУЧЫЦЬ ЧАМУСЬЦІ НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ, КАЛІ Я НЕ ЗМОГ НАРМАЛЬНА ВЫХАВАЦЬ УЛАСНАГА СЫНА?

Я – ПАДМАНШЧЫК, ЭРЫК. Я – ДУРАНЬ...
У ТЫХ, ХТО ЛІЧЫЦЬ МАЕ ІДЭІ ГОДНЫМІ, ВІДАВОЧНА НЕ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ З ГАЛАВОЙ.
КАЛІ ШЧЫРА, МНЕ КРЫЎДНА ЧУЦЬ ГЭТА, ПРАФЕСАР...


ШТО ГЭТА?
КВІТКІ НА ВАШУ ЛЕКЦЫЮ Ў МЭДЭІСАН СКВЕР, ЯКУЮ АДМЯНІЛІ. Я ЗАХАВАЎ ІХ НА ВЫПАДАК, КАЛІ ЯНЫ ПЕРАДУМАЮЦЬ.


ВЫ НАБЫЛІ ГЭТЫЯ КВІТКІ ПА ЎЛАСНЫМ ЖАДАННІ?
ПА СОРАК ДЗЕВЯЦЬ ДАЛЯРАЎ ЗА КОЖНЫ. ВЕДАЮ. У ГЭТА ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ, АЛЕ... ТАК.


ПРАФЕСАР?


ДЗЯКУЙ, ЭРЫК.
ВЯЛІКІ ТАБЕ ДЗЯКУЙ!





Шпіталь Сэнт-Чарльз:




Ты ўпэўнена, што паліцэйскія нас не бачаць, Марвел?
Суняміся. Сэнсарная маніпуляцыя – першае, чаму мяне навучыў прафесар.
Таму нашыя выдатныя копы ўпэўненыя, што мы – проста пара мух, якія кружацца перад шклом.




Дзіўна падумаць пра тое, што Бобі ляжыць тут. Ён падобны на маленькую зламаную лялку.




Чаму так усё атрымалася, Джына? Як мы дажылі да таго, што ўлады горада наймаюць ахову, каб не дапусціць людзей Ікс да Чалавека-Ільда?
Таму, што прафесар прымусіў яго змагацца з самым магутным мутантам на зямлі ў той час, калі яго аднагодкі яшчэ гуляюць у цацкі.
Маці і тата Бобі зрабілі, як і любыя б іншыя бацькі на іх месцы.




Ты лічыш Хаўера вінаватым?
Не. Проста мне становіцца страшна, калі я думаю пра тое, як лёгка нас знішчыць. Але мы ўсе ведалі правілы, калі паступалі ў школу.




Спадзяюся, што гэта засмуціла цябе не настолькі, каб ты зноў збег ад нас да Братэрства мутантаў, як у мінулы раз?
Ты ж больш не ўйдзеш, Скот?
Я нікуды не ўйду, Джына.




Вось і добра, таму што тыя некалькі тыдняў, калі ты хаваўся на Дзікай Зямлі з Магнета, былі самымі доўгімі ў маім жыцці.
Павер майму слову, я не аб кім больш не думала.




Паслухай, ты не абдыміш мяне? Я пакінула куртку ў машыне, а тут халодна.
Канешне, так добра?


ВЫДАТНА.
ДЖЫНА, Я...


ЦЦЦ.
НЕ НЕРВУЙСЯ. І НЕ СПРАБУЙ ПАДАБРАЦЬ ПАТРЭБНЫЯ СЛОВЫ. Я ТЭЛЕПАТ. ТЫ ПАМЯТАЕШ?


Я ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ПАДАБАЮСЯ ТАБЕ РАНЕЙ, ЧЫМ ТЫ ГЭТА САМ АДЧУЎ.








ЛЮДЗІ ІСК, ЗАНЯТКІ ПАЧНУЦЦА ЗАЎТРА. У 9 ГАДЗІН РАНІЦЫ.
Працяг будзе...